# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 42 (1025) ГОД XX 19 КАСТРЫЧНІКА 1975 г. ЦАНА 60 гр.


## Новыя вершы

*Ёсць у свеце планета Зямля.*
*Ёсць на Зямлі той краіна адна,*
*А ў той краіне — прыстанішча, дзе*
*Сэрца званчэйшыя песні вядзе.*
*Хоць, як і ўсюды, такія ж і там*
*Верасавішчы, пагоркі, лясы,*
*Маланкамі скрэмзаныя валуны,*
*Дажджамі аплаканыя курганы.*
*Хоць, як і ўсюды, такія ж... ды ўсё ж*
*Тут нешта і надзвычайнае ёсць.*
*І не разгаданае нікім*
*У гэтым прыстанішчы родным маім.*
*Нешта... аб чым толькі знае зямля*
*І ў калыханцы сваёй нам пяе,*
*Калі прыпадаем грудзьмі да яе.*

**Максім Танк**

ГП БГКТ супольна з ваяводскай і гарадской бібліятэкамі ў Беластоку аб'яўляюць чытальніцкі конкурс **„Вялікая Айчынная вайна ў творах беларускіх пісьменнікаў“**. Яго мэта — пашырыць чытанне беларускай літаратуры, прысвечанай гераічнай барацьбе Савецкай Арміі і партызанаў у час мінулай вайны.

**У конкурсе могуць прымаць удзел усе, пачынаючы з 14-гадовага ўзросту, ён пачаўся 15 кастрычніка г.г. і будзе працягвацца да 9 мая 1976 г. Аб сваім удзеле ў конкурсе неабходна паведаміць кіраўніку гміннай бібліятэкі да I сакавіка 1976 г.**

Конкурс будзе адбывацца на дзвюх ступенях. **Элімінацыі ў гмінах** арганізуюць гмінныя бібліятэкі супольна з мясцовымі гурткамі БГКТ **да 22 красавіка 1976 г.** Пажадана, каб гэта ўзбагаціла святкаванне 31-ай гадавіны падпісання Пагаднення аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Польшчай і




СССР. Прыступаючы да іх, **кожны ўдзельнік павінен прачытаць 4-5 твораў беларускіх пісьменнікаў** на вышэй спамянутую тэму і па іх падрыхтаваць **адказы** на такія пункты: **1) аўтар і загаловак твора, 2) месца дзеяння, 3) галоўныя героі, 4) самае цікавае месца ў творы.** Пасля таго, як удзельнік прадставіць спісак прачытаных твораў, камісія папросіць яго коратка **пераказаць змест аднаго з іх.** На гмінных элімінацыях будзе вызначаны **адзін** удзельнік на ваяводскую ступень.

**Ваяводскія элімінацыі адбудуцца да 10 мая 1976 г.** і супадуць з Днём Перамогі. Іх удзельнікі абавязаны прад'явіць **пасведчанне з гміннай бібліятэкі аб прачытанні 6-8 твораў**, а таксама быць падрыхтаваным да выказвання на тэму: **„Якога з герояў прачытаных мною твораў можна браць за прыклад і чаму?“** і адказаць **на вылесаваныя** самім **3 пытанні па асновах ведаў аб беларускай літаратуры.**

Усе выказванні на гмінных і ваяводскіх элімінацыях удзельнік можа падрыхтаваць вусна або пісьмова, а потым расказаць ці прачытаць перад конкурснай камісіяй на беларускай або польскай мовах.

**Пераможцаў у конкурсе чакаюць каштоўныя ўзнагароды!**

Кіраўнікі бібліятэк, якія найлепш будуць папулярызаваць беларускую літаратуру і выкажуцца вялікай колькасцю чытачоў і прачытаных твораў, таксама атрымаюць каштоўныя ўзнагароды.

**Арганізатары конкурсу звяртаюцца да кіраўнікоў гмінных бібліятэк і актыву БГКТ з заклікам як мага шырэй папулярызаваць творы беларускіх пісьменнікаў, арганізоўваць выстаўкі кніг беларускіх аўтараў і праводзіць іншыя мерапрыемствы, каб зацікавіць конкурсам шырокі круг чытачоў.**

Дакладныя звесткі аб конкурсе вы атрымаеце ў кіраўніка вашай гміннай бібліятэкі. У наступным нумары „Нівы“ будзе змешчан прыкладны спісак твораў беларускіх пісьменнікаў на конкурсную тэму.

**Запрашаем усіх да ўдзелу ў конкурсе!**



**Сцэна з „Машэкі“ Е. Міровіча ў выкананні самадзейнікаў з Дабрывады. У сёлетнім цэнтральным аглядзе драматычных калектываў БГКТ занялі яны першае месца (катэгорыя фальклорных калектываў). Фота Я. Цялушэцкага.**

# За эфектыўнасць працы

## Больш лепш хутчэй!

VII ZJAZD

Адным з галоўных заданняў, якія паставіў перад народам XVIII Пленум ЦК ПАРП, з'яўляецца павышэнне якасці працы ва ўсіх галінах жыцця, у гаспадарчай і грамадскай, партыйнай і дзяржаўнай дзейнасці, у навуцы і асвеце, у культуры і ў працы кожнага калектыву, кожнага чалавека. Адным словам, стаўка на якасць.

У перадз'ездаўскіх тэзісах ЦК ясна пастаўлены мэты і заданні эканамічна-грамадскага развіцця. З іх вынікаюць заданні паасобным арганізацыям і ўстановам, у тым ліку і Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству. Як выглядае справа якасці нашай культурна-асветнай прадукцыі, пад якой пераважна разумеем развіццё мастацкай самадзейнасці, як трэба працаваць, якімі метадамі, каб наша БГКТ-оўская арганізацыя мела большыя эфекты ў сваёй дзейнасці? Ці не маглі б усе мы, як штатныя працаўнікі БГКТ, так і грамадскі актыў, зрабіць больш? Якраз гэтымі пытаннямі будзе займацца пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ, якое адбудзецца 26 кастрычніка.

Заданні перад нашым таварыствам адказныя. Неабходна дастасаваць нашую арганізацыйную структуру да новага двухступеннага адміністрацыйнага падзелу. Пленум прыме таксама пастанову адносна справаздачна-выбарнай кампаніі ў гуртках БГКТ. Варта таксама напомніць і аб тым, што не так ужо далёка 20-ая гадавіна БГКТ і VIII з'езд БГКТ. Такім чынам, перад намі шмат арганізацыйнай працы.

Справа ў тым, каб карыстаючыся ўзбуджанай тэзісамі ЦК ПАРП актыўнасцю людзей, у нашай справаздачна-выбарнай кампаніі ўзбудзіць актыўнасць многіх нашых сяброў, узбудзіць актыўнасць нашых гурткоў БГКТ, выбраць найлепшых дзеячоў праўлення і ініцыятыўных людзей старшынямі праўленняў, а праўленні вызначылі свае заданні ў святле тэзісаў ЦК ПАРП.

Справа ў тым, каб кожнае мерапрыемства нашага таварыства, ці будзе гэта сход гуртка, ці нарада, ці выступленне мастацкіх калектываў, зрабіць як мага лепш, каб уплыў на асяроддзе быў мабілізуючым і спрыяў лепшай працы і паводзінам, каб фарміраваў сацыялістычную мараль і паставу, патрыятызм і інтэрнацыяналізм, каб мы шукалі і знаходзілі больш плённыя формы працы з гурткамі БГКТ.

Справа ўрэшце ў тым, каб члены БГКТ былі перадавымі гаспадарамі, перадавымі людзьмі сваіх прадпрыемстваў і установ, каб мы, як звяно ідэалагічнага фронту, дапамагалі здзяйсненню накрэсленых партыяй планаў будовы развітага сацыялістычнага грамадства. Каб мы, як арганізацыя, у перадз'ездаўскі перыяд унеслі свой уклад, паляпшаючы адначасова сваю спецыфічную дзейнасць.

**М. Хмялеўскі**

## Праз тыдзень у „Ніве“

**Дзень сённяшні і заўтрашні Кандраткаў ● Крынкі ● Веласіпедам па Фінляндыі ● Гайнаўскі белліцэй ● Вакол беларускага паўстання ● Ветлівую ўсмешку даюць без падпіскі ў Пасынках ● А што ў Ляўкове? ● І зноў пад голым небам у Войнаўцы ● Весткі з Бельска, Гайнаўкі, Дубіч Царк., Чэхаў Арлян., Чаромхі, Вярхлесся, Белавежы ● Калі прысніцца школа ● Песня „Honey, honey”.**



*Колішні трач Мікіта Чурак цяпер займаецца толькі сваёй гаспадаркай ды даглядае сад.*

## Краязнаўчы слоўнік

# Альшына

Гэтую мясціну варта наведаць не ў маі, калі вольхі з карычневых покавак выпускаюць шаўкавісты ліст ды вечарамі ў кустах спаборнічаюць залівістыя салаўі, бо альховага гаю тут няма, але якраз у месяцы жніўні, як голлі ў садах угінаюцца ад сліў, яблык і груш. Колькі іх тут! Вадзянкі, рэнклоды, вянгеркі, бярозаўкі, спасавыя, аліўкі белыя і ружовыя — усіх не толькі не ў сілах перапрабаваць, але і назваць немагчыма.

Альшына знаходзіцца ўсяго ў вярсце ад сяла Арэшкава, што ў гміне Дубічы Царкоўныя. Яе дванаццаць гаспадарак рассяліся паабапал колішняга гасцінца Гайнаўка-Камянец, а сярод амаль 60 жыхароў маладыя мужчыны пераважна працуюць на чыгунцы, што праходзіць у вярсце ад вёскі, або на розных прадпрыемствах Гайнаўкі. Гаспадаркі ж вядуць у асноўным жанчыны і старэйшыя сяляне, але гаспадараць добра, дбаюць пра высокія ўраджаі і жывёлагадоўлю. Шмат моладзі пасля заканчэння гайнаўскіх сярэдніх школаў падаецца вучыцца далей: **Валянціна** і **Уладзімір Пяткевічы,** закончыўшы вышэйшыя школы, цяпер працуюць у Гдыні і Варшаве, **Сцепанюк Галена** са званнем магістра працуе ў Гданьску, **Яўгіння Баравік** стала настаўніцай, шэраг асоб закончыла тэхнікумы, некалькі яшчэ вучыцца.

Альшына — адна з самых маладых вёсак на Беласточчыне. Яе гісторыя пачынаецца ў 1946 г., калі ў Арэшкаве згарэла 56 гаспадарак. Пасля гэтага была праведзена камасацыя зямлі, і ўлады запрапанавалі пагарэльцам пабудавацца ў невялікіх пасёлках, параскіданых вакол Арэшкава. І вось ва ўрочышчы **Панская Альшына** аблюбавалі сабе сялібы **Баравік, Бугвін, Гурын, Кошаль, Мішчукі, Патэюкі, Пяткевічы, Сцепанюк, Чурак, Шуецкі.** Праўда, цяж-

**(Працяг на стар. 4)**




# ЭФІОПІЯ

Змены ў Эфіопіі пачаліся паўтара года назад, у лютым-сакавіку 1974 года. Звяржэнне імператара Хайле Селасіе I, якое адбылося 12 верасня, азнаменавала ліквідацыю манархічнага, феадальна-бюракратычнага рэжыму.

Улада перайшла да Часовага ваеннага адміністрацыйнага камітэта (ЧВАК), які ўзяў на сябе выпрацоўку праграмы і ажыццяўленне перабудовы краіны. Напрамак пераўтварэнняў быў сфармуляваны ў заяве ЧВАК 20 снежня 1974 года. Абвяшчаліся сацыялістычная арыентацыя краіны, роўнасць усіх эфіопаў, прыярытэт грамадскіх інтарэсаў перад асабістымі („Эфіопія перш за ўсё"). Прадугледжвалася аграрная рэформа. Абʼяўлялася грамадская ўласнасць на натуральныя багацці краіны. У адносінах знешнепалітычнага курсу новы ўрад заяўляў, што будзе прытрымлівацца прынцыпу недалучэння, змагацца супраць імперыялізму і каланіялізму.

Новаму ўраду дасталася цяжкая спадчына. Па ўзроўню нацыянальнага даходу на душу насельніцтва Эфіопія займае адно з апошніх месц у свеце (76 амерыканскіх долараў у 1974 годзе). З 26,5 мільёна насельніцтва 90 працэнтаў звязана з сельскай гаспадаркай. Спрадвеку на жорсткай эксплуатацыі сялян паразітавалі царква, армія, феадальная арыстакратыя, манархаў дом. Каля 58 працэнтаў усіх апрацоўваемых урадлівых зямель належала буйным зямельным уласнікам, 12 працэнтаў — царкве, 10 працэнтаў — імператарскай сямʼі і толькі сем працэнтаў — амаль 22 мільёнам сялян.

Прамысловасць Эфіопіі развіта слаба. Прамысловасць прыватнага сектара амаль поўнасцю кантраляваў замежны капітал.

У студзені 1975 года былі нацыяналізаваны ўсе прыватныя банкі, страхавыя кампаніі і іншыя фінансавыя арганізацыі. Гэта мера сурʼёзна ўмацавала пазіцыі дзяржавы ў галіне кантролю над эканомікай. Была поўнасцю канфіскавана маёмасць контррэвалюцыйных элементаў і асоб, якія засталіся за мяжой або ўцяклі туды. Урад канфіскаваў таксама зямельныя ўгоддзі, маёнткі і іншую рухомую і нерухомую маёмасць імператарскай сямʼі.

Асабліва важныя рашэнні былі прыняты 3 лютага. У падначаленне дзяржавы пераходзяць асноўныя галіны прамысловасці.

У сакавіку гэтага года апублікаваны дэкрэт аб зямельнай рэформе. Уся зямля Эфіопіі абʼяўлена агульнанароднай уласнасцю і падлягае размеркаванню „сярод тых, хто яе апрацоўвае" — беззямельных і малазямельных сялян і батракоў. Паводле папярэдніх даных міністэрства зямельнай рэформы, зямельныя надзелы атрымаюць звыш 12 мільёнаў сялян. Усяго ж у выніку атрымання надзелаў і ад ліквідацыі феадальных павіннасцей выйграе звыш 20 мільёнаў жыхароў, або каля 75 працэнтаў усяго насельніцтва Эфіопіі.

Аднак ломка векавых асноў праходзіць нялёгка. Новаму эфіопскаму ўраду прыходзіцца пераадольваць сурʼёзныя цяжкасці, звязаныя з недахопам матэрыяльных сродкаў, кваліфікаваных кадраў, недастатковым вопытам. Адчуваецца і супраціўленне рэакцыйных элементаў — феадальнай знаці, вышэйшых ваенных і палітычных чыноў былога рэжыму, прывілеяванай часткі чыноўніцтва, якія імкнуцца сарваць прагрэсіўныя пераўтварэнні. Яны звяртаюцца не толькі да актаў сабатажу, але і да прамога насілля і тэрору.

Абвешчаныя прынцыпы сацыяльнай і эканамічнай перабудовы і ажыццяўленне іх у інтарэсах народа ствараюць спрыяльныя ўмовы для развіцця Эфіопіі па прагрэсіўнаму шляху. Аднак трэба будзе правесці яшчэ сурʼёзную палітычную работу сярод насельніцтва па прыцягненню працоўных да актыўнага ўдзелу ў ажыццяўленні мерапрыемстваў урада. Хутчэйшаму дасягненню гэтай мэты будзе садзейнічаць плануемае стварэнне ў бліжэйшы час агульнанацыянальнай палітычнай партыі, якая б апіралася на рабочых, сялян і прагрэсіўную інтэлігенцыю. Як справядліва падкрэсліваюць у сваіх выступленнях кіраўнікі эфіопскага ваеннага ўрада, поспех дэмакратычных пераўтварэнняў ў краіне залежыць ад актыўнага ўдзелу ў справах дзяржавы шырокіх народных мас.

**І. Плышэўскі**

## Наша галерэя



*А. Рабцаў, Усяж. Лыжкі (дрэва, выпальванне).*

## З сяброўскім візітам

21 верасня г.г., у 8 гадзін раніцы 30-асабовая група працаўнікоў Белавежскага нацыянальнага парка пераходзіць мяжу з БССР. Мы едзем ў госці да працаўнікоў запаведна-паляўнічай гаспадаркі „Белавежская пушча", каб сумесна святкаваць Дзень работніка лесу. Многія з нас першы раз у жыцці ставяць крокі па беларускай зямлі. На мяжы сустракае нас сакратар парткома гаспадаркі П. Міхалевіч. Ён часта прыязджае ў Белавежу, таму мы ўжо здалёк пазнаем яго. Першыя абдымкі і едзем проста ў Каменюкі — месцазнаходжанне дырэкцыі гаспадаркі „Белавежская пушча". Хутка снедаем, і нас вязуць на лясную паляну, дзе адбудзецца галоўная ўрачыстасць — святкаванне Дня работніка лесу ў Белавежскай пушчы. Паспелі. На трыбуне збіраецца прэзідыум. Праз момант з гучнагаварыцеляў плыве мелодыя савецкага гімна. На мачту паднімаюць сцяг. Прыўзняты настрой. Усе стаяць смірна. Потым выступае дырэктар гаспадаркі С. Качаноўскі.

Слухаю і набіраю пашаны да дасягненняў працаўнікоў пушчы. За 8 месяцаў у гаспадарцы нарыхтавалі 53 750 кубічных метраў ліквіднай і 18 085 кубаметраў дзелавой драўніны. Гучаць прозвішчы перадавікоў — бензапільшчыка А. Р. Сіплівага, тралёўшчыка П.П. Раўнейкі, рабочых І. Я. Акудовіча, Н. К. Кузьміча, П. Я. Барысевіча і многіх другіх. Маюць чым пахваліцца і навуковыя працаўнікі. Правялі яны шэраг каштоўных даследаванняў, якія знойдуць практычнае прымяненне. Цяпер будуецца ў Каменюках навуковы лабараторны корпус.

Слова мае дырэктар Белавежскага нацыянальнага парка С. Круkoўскі. Ён перадае ўсім беларускім работнікам лесу гарачыя прывітанні ад беластоцкіх ляснікоў. Уручае таксама С. Качаноўскаму гасцінец ад імя нашай групы — статую зубра, зробленую ў драўніне.

Наступныя прамоўцы, сярод якіх знаходзіцца намеснік міністра сельскай гаспадаркі БССР В. Раманоўскі, асабліва падкрэсліваюць адказнасць працы работнікаў лесу. Потым перадавікам уручаюцца ўзнагароды, дыпломы. Прабую іх палічыць, але праз некалькі мінут адракаюся. Іх тут надта многа.

Канчаецца афіцыйная частка. Сцэнай авалодвае самадзейны ансамбль. Плывуць беларускія і рускія народныя песні. Грукочуць дошкі ад танцаў. Стаім і захапляемся. На жаль, прыбліжаецца гадзіна $13^{00}$. Мусім пакідаць святочную паляну. Нас цяпер павязуць у музей прыроды. Ідзем да аўтамашыны, а О. Кальвінская па дарозе гаворыць, што магла б стаяць тут цэлы дзень і цэлую ноч, ды слухаць гэтыя цудоўныя напевы.

Па музеі прыроды нас водзіць Н. Дзячэнка. Ёсць тут на што паглядзець. Шматлікія экземпляры фауны і флоры Белавежскай пушчы паказаны тут усебакова. Каб усё дакладна агледзець — і дня б не хапіла. У музеі за 8 месяцаў г.г. пабывала ўжо каля 140 тыс. чалавек.

З музея накіроўваемся да вальераў, дзе можам убачыць зусім зблізка тарпанаў, аленяў, зубраў, дзікаў, лося, ды нават муфлонаў, якіх калісьці падарыў пасля пабыўкі ў пушчы Вальтэр Ульбрыхт.

У $14^{00}$ нас прымаюць у рэстаране, што знаходзіцца побач музея, працаўнікі гаспадаркі „Белавежская пушча". Пры багата застаўленых сталах пачынаюць наладжвацца знаёмствы. Віно памагае вызваліцца ад усякага збянтэжання. Ідуць шчырыя размовы аб працы, аб жыцці. Хтосьці прапануе заспяваць беларускую песню. Гэтую думку ахвотна падтрымліваюць усе. Плыве адна песня, другая... Пачынаюцца танцы. І дзе тут думаць аб вяртанні дамоў? Гаспадары званяць па тэлефоне да пагранічнікаў, каб перакладзіць пераход мяжы на гадзіну пазней. Згаджаюцца. Уздыхаем з палёгкай. Ну, але гадзіна канчаецца хутка. Ужо $16^{45}$. З жалем развітваемся. Першы раз у жыцці мне не хочацца вяртацца дамоў.

**Пётр Байко**




*Выступаюць самадзейнікі з Брэста.* *Фота Ч. Аколава.*




**Sobota 18.X.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Mech. rol. 10.00 Dla najmł. (kl. I—III) Czerwone, żółte, zielone. 10.10 Szalona głowa — film sensac. jug. 13.45 Tech. Rol. Hist. 14.30 Hod. zwierz. 15.35 Pr. I prop. 15.50 Pr. dnia. 16.00 Dzien. 16.10 Obiektyw. 16.30 Za kierownicą. 16.50 Sport dla Ciebie. 17.05 Sobota Mł. 18.05 Serenada czyścicieli wód — film NRD. 18.15 Ekran i życie. 18.50 Pr. muz. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Galia — film fab. fr. 22.00 Dzien. 22.20 Sport. 23.45 Opowieści Starszego Pana.

**Niedziela 19.X.** 6.20 Tech. Rol. 7.20 Kurs Rol. 7.55 Przyp., radz. 8.00 Now. w domu i zagr. 8.25 Alarm przeciwpoż. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.40 Michał Anioł — film fab. wł. cz. II 11.50 Lekt. Pegaza. 12.10 Spotk z A. Rubinsteinem. 12.55 Dzien. 13.15 Tydzień. 13.45 Piórkiem i węglem. 14.10 Dla dzieci. 14.50 Klub Sześciu Kont. 15.37 Los. Toto-Lot. 15.50 Wielka gra. 16.40 Refleksje ob. 17.00 Sport. 18.10 Co kto lubi. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Szaleństwo Almayera — film fr. 22.00 Niezapom. melodie. 22.30 Sport. 22.50 Sto pytań do W. Fillera.

**Poniedziałek 20.X.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Bot. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Echo stad. 18.00 Dzień po dniu — film ser. radz. 19.00 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: W. Styron. Pogrążyć się w mroku. 21.55 Między nami rodzicami. 22.20 Dzien. 22.45 Sport. 22.55 Relacja z Konk. Chopin.

**Wtorek 21.X.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Bot. 8.30 Szaleństwo Almayera — film ser. fr. 10.00 Dla najmł. (kl. I—III) Czerwone, żółte, zielone. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic). J. pol. St. Wyspiański. Wesele cz. I. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Nie tylko dla pań. 17.25 Na wielkim i małym ekr. 17.50 Studio Mł. 18.40 Jak dożyć do 100 lat. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Bracia Lautensack — film. ser. NRD odc. 6. 21.35 Interstud. 22.20 Pr. muz. NRD. 22.40 Dzien. 23.00 Sport.

**Środa 22.X.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Mech. rol. 9.00 Dla szkół: (kl. VI) Fiz. O sile i jej mierzeniu. 10.00 Bracia Lautensack — film ser. NRD. Odc. ostatni. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Hod. zwierz. 15.50 NURT. 16.15 Pr. dnia. 16.20 Dzien. 16.30 Obiektyw. 16.50 Dla dzieci. 17.20 Los. Mał. Lot. 17.30 Sport. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Bitwa o szyny — film fab. fr. 21.45 Chwila wspomnień. 22.20 Dzien. 22.40 Sport.

**Czwartek 23.X.** 6.30 Tech. Rol. Wskaz. met. 7.00 Hod. zwierz. 8.00 Kurs Inf. 10.00 Bitwa o szyny — film fab. fr. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 18.15 Spotk. w drodze. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Kim jest Wam — film fab. ang. 21.10 Pegaz. 21.55 Dzien. 22.15 Sport. 22.25 Międzynar. Konk. Pian.

**Piątek 24.X.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 8.30 Kim jest Wam — film fab. ang. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Geogr. Jak badamy pogodę. 11.05 (kl. VII) Wych. ob. Współpraca i wzajemna pomoc. 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Zool. 15.45 Red. Szk. zap. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.35 Sezam. 18.00 Inf. Wyd. 18.15 Pawiany — film dok. 18.50 Giełda reporterów. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr Małych Form: W. Faulkner. Dym. 20.55 Panorama. 21.35 Żywoty instrumentów. 22.35 Dzien. 23.00 Sport. 23.10 Filmy z Humphreyem Bogartem. Mroczne przejście.




**Piątek 17.X.** — 7.30 Film fab. 9.20 Koncert. 17.35 Powieść TV. 19.30 Hokej. CKSA—Dynamo (Ryga). 3 tercja. 20.10 Koncert.

**Sobota 18.X.** — 8.00 Pr. muz. 9.55 Koncert. 11.00 Filmy dok. 16.15 P. nożna. Szachtior—Spartak. 17.45 Film fab. 19.30 Koncert. 21.00 Sport.

**Niedziela 19.X.** — 9.00 Spektakl teatru lalek. 11.30 Film fab. 13.25 Pr. muz. 14.15 Panorama. 14.45 Balet. 15.25 Filmy anim. 16.15 Film dok. 17.45 Koncert. 18.00 Klub film. 19.30 Orkiestra symf. 20.45 Sport.




**Białowieża** Konformista — wł. 21—22. W poszukiwaniu miłości — ang. 23—24. Dom wampirów — ang. 25—26.

**Czeremcha** Łobuz — fr. 21—22. Bilans kwartalny — pol. 25—26.

**Czyże** Dzielny szeryf Lucky Luke — fr. Najemnik — ang. 22—26.

**Dubicze Cerkiewne** Dowódca armii — radz. Gwiazdy są oczami wojownika — jug. 22—26.

**Gródek** Konformista — wł. 25—26.

**Kleszczele** Pamiętnik szalonej gospodyni — USA 21—22. Walter broni Sarajewa — jug. 23—24. Peppino podbija Amerykę — wł. 25—26.

**Michałowo** Niewygodny kochanek — wł. 21—22. Pierwsza spokojna noc — wł. 23—24. Szary okrutnik — radz. 25—26.

**Milejczyce** Rewizja osobista — pol. 21—22. Niezawodni przyjaciele — rum. 23—24. Strach — pol. 25—26.

**Narew** Janosik — pol. 22—26.

**Narewka** Krakša — wł. Kajtek i siedmiogłowy smok — węg. 22—26.

**Nurzec** Peppino podbija Amerykę — wł. 21—22. Śledztwo skończone proszę zapomnieć — pol. 23—24. Przygoda z piosenką — pol. 25—26.

**Orla** Przygody psa Cywila — pol. Przez pustynię — mek. 22—26.

**Rajsk** Faraon — pol. 22—26.

**Suchowola** Kobiety, które kochałem — rum. Zabójstwo inżyniera Czarta — czes. 22—26.



B.Z.Graf. Zam. 2465 P-1.

(Працяг са стар. 1)

# Альшына

ка было пачынаць на новым месцы, але людзі не шкадавалі сваіх сіл, і праз некалькі год на пустым полі вакол ладных будынкаў закучараваліся маладыя сады ды распрасціраліся агароды. На палетках і лугах: **Азярцо, Гайстры Багон** („гайсцёр" — чорны бусел), **Гуркі, Зачабоцце, Козліска, Кляўцы, Круглае, Лозіца, Тыпаўка, Шаўлін, Шырокае** панову зарунела збожжа і травы.

Але ўспаміны засталіся колішнія, арэшкаўскія. І ва ўсіх іх асноўным матывам з'яўляецца Белавежская пушча, што віднеецца з кожнага альшынаўскага панадворка. І не дзіва: спакон веку Белавежская пушча была самай надзейнай падпорай тутэйшай беднаты. Сена ж касілі ў пушчанскіх урочышчах **Беразоўскае, Бубровіна** (калісьці там былі бабровыя жарэм'і), **Карзунікава, Арабкава, Кашалёва,** у чарніцы і за белымі грыбамі хадзілі і ходзяць у **Істоцкае.** Быдла пасвілі таксама ў пушчы. Слёзы гэта былі, а не паша, бо калі вясною рунела елка і сасна, дабытак западаў на асаблівую хваробу „руно", ад якой не было ратунку. А падзеі ў пушчы прыносілі новыя назвы яе ўрочышчам. Калі яшчэ пры цары значны яе абшар знішчылі караеды, якіх звалі тады „манашкамі", гэтае месца і заімела назву **Манашкі.** Там, дзе ў міжваенны перыяд знаходзіліся баракі і зямлянкі лясных рабочых, і па сённяшні дзень завецца **Гданьск** і **Бельведэр.** Арэшкаўцы цэлымі сем'ямі працавалі ў пушчы: пры пасадцы, зборы насення дрэў, высрубе, вывазцы. І драўніна была для іх самым удзячным матэрыялам на ўсе гаспадарчыя прылады і хатні посуд.

Некаторыя ўсё жыццё займаліся трачкаваннем (распілоўваннем бярвенняў на дылі і дошкі). Як прыгадвае Мікіта Чурак, 1908 г. нараджэння, ён пачаў займацца трачкай у семнаццацігадовым узросце. Навучыўся гэтаму рамяству ў свайго суседа А. Мішчука. Спачатку быў „сподні" трачом, а калі набраў спрыту, стаў „верхнім" трачом. Бярвенні падымалі на „столкі" спачатку спецыяльным прыспасабленнем з зубцамі — „трэпамі", а потым лябёдкай. Для трача самай важнай справай было адпаведна падрыхтаваць пілу, „развесці" яе зубы і навастрыць. Трачкаваў М. Чурак у Арэшкаве, Дубінах, Тафілаўцах, Тапчыкалах і ў іншых ваколіцах. За 24 гады ён зрэзаў дзве пілы, а з матэрыялаў, што выйшлі з-пад іх, паўстала не адна сотня хатаў, хлявоў і клуняў. Добра спазнаў нястачы людзей з усяго наваколля, уступіў у Грамаду, быў яе актыўным дзеячом, удзельнічаў



*Самай слаўнай ткачыхай у Альшыне з'яўляецца Анна Бугвін.*

у славутым з'ездзе ў Старым Беразове, які разграміла санацыйная паліцыя.

Здаўна жанчыны тут займаліся ткацтвам. Іх нястомныя працавітыя рукі апраналі з ног да галавы ўсю сям'ю, а калі не было за што залажыць рукі, не адзін звалак кужалю трэба было вывезці на торг, каб купіць парася, цяля, а то і проста — некалькі фунтаў солі. Сёння альшынскія жанчыны ўжо не ткуць кужалю ды парцяніны, з іх кросен сыходзяць адно ўзорыстыя дываны.

А пушча? Што ж, засталася такою ж, як і была калісьці. Штовечар гурты дзікаў, аленяў, а то і зуброў вывальваюцца з яе гушчэчы на альшынаўскія палеткі, марнатравяць збожжа, рыюць бульбу, ядуць буракі. Сяляне ратуюцца ад гэтага нашэсця, як могуць: ставяць розныя страшыдлы, вешаюць на тычках запаленыя ліхтары, прывязваюць сабак. Але ўсё дарма! Пушчанскія звяры настолькі абнаглелі, што і ўвагі не звяртаюць на ўсё гэта: алені чухаюцца аб страшыдлы, дзікі рыламі вывальваюць ліхтары, а бедныя сабакі ўсю ноч енчаць, аж млосна слухаць. А людзі думаюць: калі, нарэшце, пушча будзе абгароджана?

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*Альшына патанае ў кучаравай садавіне.*

## З маей званіцы

# На адной назе стоячы

Нельга сказаць, любенькія. Весела ў нашых аўтобусах і на нашых шосах ды дарогах.

Едзеш сабе, на той прыклад, раніцаю на працу. Аўтобус біткам набіты, шпількі, здаецца, не ўстрыгнуў бы, а новыя пасажыры ўсё ж нейк ухітраюцца ўлезці. Бяды няма. Каламыга нашая, хоць і трашчыць-пішчыць, а сяк-так едзе.

Стаім сабе спакойна на адной назе, ды і то на чужой прытым, і прыпынкі лічым. Адарваўся гузік ад пінжака — значыцца, адзін праехалі. Правым бокам аб сценку трэснуўся — ведаеш, што паварот мінулі і два прыпынкі ўжо за табою.

Раптам скрыгат тармазоў — і цябе кідае ўперад проста ў абдымкі поўнагрудай бландзіначкі.

— Даруйце, грамадзяначка, — шэпчаш ёй у вушка. — Па поваду вялікага сціску я вас, як бачыце, нават прытуліць па-людску не маю магчымасці. Вось калі б гэтак сустрэцца з вамі сёння вечаркам у кафэ „Фіялка", скажам, напэўна зусім іншая была б справа. Ці, напрыклад, гадзіна восьмая б вам, любенькая, адпавядала?

— Грубіян! Што вы сабе думаеце? — абураецца мілае стварэнне. — Я калі куды і заходжу, дык толькі ў рэстаран „Рамантыка", ды і то не раней паловы

# А ў 1976 годзе

Нарэшце Бельск будзе мець новае прыгожае кафэ. Не, гэта не значыць, што не было. Было, ды нават з прыгожай назвай „Эва". Але што з тае назвы, калі ў сярэдзіне ўжо не так цудоўна. Праўда, памяшчае яно 50 чалавек, але ўсё-такі месца, відаць, малавата, калі тут часта ў туманах папяросавага дыму тузаюцца за крэсла. І не зайздрошчу я тады тым людзям, што жывуць наверсе. Там жа кватэры...

Кафэ, пабудову якога распачалі ў гэтым годзе, а маюць закончыць, згодна з планам, у палове наступнага, памесціць аж 114 чалавек (разам з тэрасай). Апрача таго, будзе адзінаццаць дадатковых месц пры буфеце.

Падвойны ўваход, поўнае абсталяванне, аркестр, які будзе мець свой уласны пакойчык, — ну, проста роскаш. Гуляй ды весяліся! Ёсць ужо і назва — „Юбілятка". Назвалі так таму, што ВСС, якому кафэ будзе падначалена, святкуе ў гэтым годзе сямідзесятую гадавіну сваёй дзейнасці.

А што ў сярэдзіне? Даволі цікава. Пераважна будзе гэта металапластыка. Нават сцэна для аркестра будзе ўпрыгожана каляровым барэльефам з медзі. Будзе тут многа і дрэва. Кошт пабудовы — 1 мільён 200 тысяч. Вялікая сума, але і многае абяцае. **М. Ш.**

# Марудная вёска

Малочкі — тыповая вёска ў Боцькаўскай гміне. Далёка адсюль да мястэчка: да гмінных Боцькаў ажно дзевяць кіламетраў. Таму, мабыць, амаль няма тут людзей, якія б працавалі ў дзяржаўных установах. Жывуць з гаспадарак. Нядрэнна жывуць.

У гэтай вёсцы, апрача спажывецкай крамы ды пажарнай каманды, нічога няма.

Малочкаўцы кажуць, што крама недастаткова забяспечана прадуктамі ды таварамі штодзённага ўжытку. Найгорш з дастаўкаю хлеба, асабліва ў жніво. Хлеб праз дзень давозілі з Боцькаў. Не раз даводзілася купляць яго ў суседніх крамах.

Пажарнікі ж арганізаваліся яшчэ да вайны, але сваю сапраўдную дзейнасць пачалі яны ў 1947 г. Цяпер іх тут дваццаць чатыры асобы. Тры разы змянялася праўленне пажарнай каманды: начальнікамі былі Янка Барташук, Уладзімір Хвашчэўскі, а цяпер Янка Хількевіч.

Хількевіч ведае, чаго хоча, і з такімі, як ён, можна многа добрага зрабіць у вёсцы. У 1970 г. па ініцыятыве пажарнікаў Малочкі пабудавалі святліцу. У 1972 г. малочкаўцы сабралі грошай і дабудавалі пажарную, у якой захоўваецца абсталяванне.

Сёлета ў святліцы быў арганізаваны дзяцінец на жніўны час. Знаходзілася ў ім чатырнаццаць дзяцей. Малавата, як на Малочкі. Кажуць, некаторыя не пасылалі сваіх дзяцей у гэты дзяцінец таму, што плата сто злотых здалася ім занадта вялікай...

У Малочках па сённяшні дзень няма пажарных басейнаў, бязводных равоў і пропустаў ад канаўкі ў пачатку вёскі, з боку Боцькаў. Бяда таксама і з сельскагаспадарчымі машынамі: трактарысты са Снежак — гэта вялікія нядбайлы, абыякавічы. У іх — куды не кінь, усё клін!

Начальнік Гміннай управы ў Боцьках мгр інж. Канстанцін Санкевіч гаворыць:

— Малочкі мы лічылі маруднаю вёскаю... Жніво ў іх, трэба прызнаць, адбылося добра. Мы дапамаглі Малочкам пабудаваць дарогу, абсталяваць вулічнае асвятленне, уладкаваць гадзіны работы крамы... Праблемы, якія нам сёння высунулі, будзем намагацца вырашаць...

Прыемна пачуць гэтакае ад начальніка. Хацелася б толькі, каб не былі гэта словы, кінутыя на вецер...

**Ул. Сідарук**

НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

Беларуская літаратура
АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

## АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XXVII

**Сэнс жыцця.** У вершы „Адбітак" паэт супрацьстаўляе брыдоту жыцця чалавека прыгажосці прыродных з'яў. У творы „Як ліст вярбінкі маладой" Гарун, наадварот, праводзіць аналогію паміж сваім лёсам і вечным фаталістычным кругазваротам у прыродзе. Бачыць ён падабенства свайго лёсу са станам ліста, адарванага з галіны ветрам і кінутага ў струмень вады:

*Як ліст вярбінкі маладой,*
*Што вецер злосны адарваў*
*І ў рэчку кінуў і з вадой*
*У даль няведаму пагнаў, —*
*Плыву сабе. Рака мая — жыццё,*
*Па ёй плывуць і кветкі і смяццё.*

Значыць, жыццё чалавека бязвольнае. Упраўляе ім не чалавек, а невядомая таямнічая сіла, якая кідае нас у вір побыту або разам з кветкамі, або разам са смеццем. Зразумела, што нельга згадзіцца з пісьменнікам, калі гаворыць ён аб зусім незалежным ад нас характары нашага жыцця, але нельга прызнаць яму рацыі ў тым, што наш побыт дэтэрмінуе таксама незалежная ад нас рэчаіснасць.

Тэзіс аб таямнічасці жыцця, аб непазнавальнасці яго характару, пэўнае недаўменне чалавека ў адносінах да заўтрашняга дня моцна гучыць у вершы „Ідуць гады". У гэтым творы паэт даказвае, што ўсё ў нашым жыцці адноснае, што ўсе яго падзеі выпадковыя і незалежныя **ад нашай волі.** Чалавек не ведае, адкуль ён узяўся, не ведае мэты свайго існавання, не ведае, ці жыццё заключае ў сабе глыбейшы сэнс, ці гэтага сэнсу яно пазбаўлена ўвогуле:

*Не ведама мне, скуль усё і што я;*
*Не ведама мне сама сцежка мая,*
*Не ведама мне і куды я іду,*
*Пытання не маю, ці што там знайду;*
*Не ведаю, жыццё ці шчасце, ці не.*

Здавалася б, што фінальныя вывады такога песімістычнага ўспрыймання свету павінны прапагандаваць пасіўнасць чалавека. Аднак аўтар, як бы насуперак самому сабе, у апошніх двух радках верша прапануе жыццерадасную творчую канцэпцыю чалавека.

*Прысуджаны шлях твой рабі дарагім,*
*Красуйся на радасць сабе і другім.*

Непаслядоўным у ідэйным сэнсе з'яўляецца таксама глыбокі і цікавы верш „Навука". Тут зноў пісьменнік вяртаецца да праблемы сэнсу жыцця, лёсу, дзейнасці чалавека. Задумоўваецца над тым, ці чалавек кіруе самім сабой, ці лёс яго залежыць ад фатума, ці павінен ён развіваць мэтанакіраваную дзейнасць, ці чакаць прыгавору і загаду з боку вышэйшых сіл. У творы Гарун называе фатум Конам-Рокам і даказвае, што яму чалавек павінен поўнасцю падпарадкаваць сваю свядомасць, волю, дзеянне. Пісьменнік прызнае патрэбу чалавечай актыўнасці. Аднак гэтую актыўнасць павінен ён праяўляць толькі па сігналу Кона-Рока. Варта прывесці гэты арыгінальны верш поўнасцю, бо ў ім, бадай, найглыбей выяўлена фаталістычная ідэалогія аўтара.

*Казаў настаўнік мне (ён блізкі быў прароку,*
*Які жывым узняўся ў выш, блакіт нябескіх сфер):*
*„Мой сын, спачатку мы падладны Кону-Року —*
*У гэта вер.*
*Які б там крыж табе не выпаў ў жыцці гэтым:*
*Галеці век ці быць царом і царскі мець пасад,*
*У балоце броснеці ці йсці к нязнаным мэтам, —*
*Яго загад.*
*І вось, калі табе трываць не стане змогі,*
*І цяжкім здасца крыж табе, і доля вельмі злой, —*
*Не трэба, сын, шукаць лягчэйшае дарогі, —*
*Ідзі старой.*
*І мусіць час настаць: пабачыш свет праменны, —*
*Ідзе ўладар адвечны твой; яго спаткай здалёк,*
*Уздзяўшы біты меч на свой пояс раменны.*
*І скажа Рок:*
*„Ідзі хутчэй, слуга! Спавіты свет маркотай,*
*Ў ім крыўды легіён забраў зямлі апошню чвэрць, —*
*Нясі ж свой праўдзе меч. Мой сын, ідзі з ахвотай*
*На чэсць і смерць!"*

Паняцце Кона, які вызначае чалавечы лёс і якому безумоўна трэба падпарадкавацца, выступае таксама ў вершы „Нактурно". У гэтым вершы даходзіць паэт да пэўнай крайнасці. Прапануе ён чалавеку не толькі поўнасцю прымірыцца з Конам, не толькі цалкам выконваць яго волю, але патрабуе ад чалавека ўдзячнасці за пакуты, якімі Кон нагароджвае яго.

*Дзянькоў сваіх маркотнасць ты ў распачы*
*І тэй свае адлюднасці не гудзь:*
*Пакуты Кон табе шчасліваму прызначыў,*
*І ўдзячны за яе вялікаму ты будзь".*

І так, у чым заключаецца, паводле Гаруна, сэнс чалавечага жыцця? У бяссэнсе! Наш лёс не залежыць ад нас. Усе мы прыгавораны на адзіноцтва і нядолю. Над намі безупынна лунае таямнічы фатум. Мэта чалавечага існавання і імкнення не ясныя. Жахліва!

Калі, аднак, адобрыць парадаксальную думку аб тым, што мэтай жыцця з'яўляецца смерць, дык у многім трэба прызнаць паэту рацыю.

дзевятай, бо тады толькі аркестр іграць пачынае.

— Напэўна, буду, — адказваеш. А вы, каханенькая, усё ж на ўсякі выпадак лепей за мяне трымайцеся, бо з гэтымі аўтобусамі ніколі невядома.

Мяккія ручаняткі абвіваюць тваю шыю, дух на хвілінку забівае сумессю адзекалону, шампону і неадмытага поту, адлятае з трэскам гузік ад каўняра кашулі — і вось ты ўжо прыехаў.

Спецыфіку гарадскога транспарту выкарыстоўваюць, паверце, у сённяшні час па-рознаму і ўсебакова.

Суседка мая, уявіце сабе, памідоры на зіму нарыхтоўваючы, купляе іх на кірмашы і спецыяльна цераз цэлы горад у нейлонавых мяшочках дахаты возіць. Дома ўжо мае гатовае таматнае пюрэ, толькі падсаліць па смаку і паразліваць у бутэлькі.

Адзін мой знаёмы лекар усім жадаючым пахудзець па тры паездкі ў дзень у гадзіны пік прыпісвае. Вынікі адмысловыя. Адзін раз толькі, спяшаючы, ён памылкова тое самае чалавеку з хворым жыватом параіў, дык той, бедны, пакуль з перапоўненага аўтобуса даў рады выбрацца, не стрымаў проста — да сёння скаргі ва ўсе ўстановы піша, звароту коштаў за сцірку нагавіц дамагаецца. Гэта аднак, зразумейце, якраз тое выключэнне...

Свядомыя кажуць, што ўсе тыя, што грошы на самаходзік „Фіят-126“ наперад уплацілі, цэлымі сем'ямі ва ўсіх кірунках раз'язджаюць — трэніруюцца гэтак, каб да малых габарытаў прывыкнуць.

Дык гэта што, даражэнькія, гэта ўсё проза. Паэзія пачынаецца толькі на скрыжаваннях і ўсіх тых месцах, дзе розная матарызацыя, усе гэтыя імклівыя колы, кузавы, фары, гайкі і вінцікі натыкаюцца на радавога пешахода.

Вось стаіць, глянеш, на тратуары, цётка: у адной руцэ кошык, у другой два клункі нейкія — на другі бок вуліцы перабегчы намагаецца.

То адну нагу ўперад выставіць, то другую — усё рашыцца не можа. І толькі тады, калі на поўным газе набліжаецца грузавік, падбірае раптам спадніцу і, быццам тая курыца: кух-кудах, кух-кудах, коціцца проста пад колы.

Скрыгат тармазоў такі, быццам бы хто зубамі па шкле праехаў. Грузавік застраў на месцы, як той бугай, буркнуў разы са два. Цётку на хвілінку таксама ў зямлю ўперла, а пасля: кух-кудах, кух-кудах — пяціцца яна ракам назад на старое месца.

Шафёр бачыць: ёсць дарога, дык карыстае, уперад рушыў. У той самы момант і цётка, набраўшыся адвагі, бягом кідаецца наперарэз.

Ізноў скрыгат. Ад тлустых слоў паветра пагусцела. „Бандыт, забойца“, — енчыць цётка. „Вось зраблю я табе зараз, калота ты старая, гараж са сракі, на век запамятаеш“, — агрызаецца шафёр. Рушыў урэшце грузавік — цётку ветрам здула з дарогі.

І стаіць старая далей на тратуары. То адну, то другую нагу возьме, уперад выставіць, асцярожна, памалу, быццам кур мацаючы, і ўсё рашыцца не можа — выразна чарговага аўтамабіля чакае.

Тады, аднак, як папрэ — ва ўсе, напэўна, лапаткі.

**Ларс**

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# ВАСІЛЬ МАКСІМЮК

Калі мы наведалі селяніна Васіля Максімюка з вёскі Збуч (гміна Чыжы), у садзе яго дрэвы ўгіналіся пад цяжарам спелых духмяных яблыкаў і груш. Перад яго домам выдзяляўся агародчык з кветкамі, якіх было тут безліч.

Гаспадар запрашае нас у густоўны пакой. Тут кожны кут абжыты. Ахвотна слухаем нашага субяседніка. Прыйшлося яму ад нечага пачынаць. Вёска была спалена ў вайну. Васіль Максімюк пачаў ад пабудовы новай аборы, якой не меў ніхто ў ваколіцы. Будаваў ён яе сам, без ніякіх майстроў. Прыдбаў крыху дабытку.

Найлепшых поспехаў дабіўся ў апошнія гады, калі пачаў укараняць новыя метады апрацоўкі зямлі і прымяняць лепшыя, больш плённыя сарты збожжавых культур. Атрымаў насенне пшаніцы „Гранат“, ячменю „Дамазы“ і аўса „Флемінгвайс“. Пад пасевы выдзяляў спачатку невялічкія ўчасткі зямельных угоддзяў, не хацеў рызыкаваць. Пасля суседзі-аднавяскоўцы ахвотна вымяньвалі ў яго насенне.

Вынікамі Васіля Максімюка зацікавілася доследнае сельскагаспадарчае прадпрыемства ў Шэпятове. Дабіўся ён 44 цэнтнераў пшаніцы з 1 гектара і яшчэ большага ўраджаю аўса. У яго зямельныя ўгоддзі III і IV класаў, на якіх нават цукровыя буракі нядрэнна раслі. Але патрабуюць яны і належнай апрацоўкі, і немалой колькасці розных угнаенняў. А гэта, вядома, не прыходзіць само без дадатковых намаганняў і клопатаў. Дзе як дзе, але хутчэй за ўсё на гаспадарцы не заўсёды так удаецца, як заплануеш. Многае залежыць ад атмасферных умоў. Вось два гады таму назад якое было лета, а пасля яшчэ больш дажджлівая восень... Авёс нельга было сабраць з-за пагоды, а бульба ў некаторых так і асталася зімаваць на полі. А ўсё тады нядрэнна ўрадзіла, успамінае гаспадар. Збучанскі гаспадар усё ж такі прадаў і ў той цяжкі для сялян год 3500 кілаграмаў збожжа.

Пару год таму назад ён шырока разгарнуў свінагадоўлю. Прадае па 15 свіней, а, бывала, яшчэ больш у год. Жонка даглядала іх як толькі магла. Атрым-

Гадуе 80 курэй і 15 гусей. [illegible] іх хоць адбаўляй, але затое ёсць немалая карысць.

Працавіты гаспадар В. Максімюк не абмяжоўваецца справамі сваёй гаспадаркі. Выконваў ён розныя адказныя функцыі ў мясцовым сельскагаспадарчым гуртку. Быў яго старшынёю, а пасля амаль сем гадоў дыспетчарам. Вёў продаж мінеральных угнаенняў на месцы, хадзіў з кантрактацыяй свіней і льну. Усе яму давяралі, раіліся з ім.

Заслугі Васіля Максімюка са Збуча былі высока ацэнены адміністрацыямі і палітычнымі ўладамі. Ён быў узнагароджаны ў 1972 годзе Залатым Крыжам Заслугі і шматлікімі дыпломамі.

З'яўляецца ён членам ПАРП ужо 14 гадоў.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*20 тысяч штук цэглы ляжыць на пляцы боцькаўскага ГС-у.*




20 тыс. штук керамічных пустакоў У-25/20, штосьці каля шасці злотых за адзін, марна дажывае свой век на плошчы боцькаўскага ГС, якая нагадвае суполны могільнік вырабаў ляўкоўскага керамічнага прадпрыемства.

— І што з імі рабіць? — безупынна думаюць боцькаўскія ўлады. — Мела ж гэта быць „навіна“, а тут іх не толькі за грошы, але і дарам людзі браць не захочуць.

І сапраўды! Навошта ж вазіць груз на панадворак. Інакш гэтых пустакоў назваць нельга. Амаль кожны, калі не паспеў яшчэ рассыпацца, то ляжыць палопаны, і хопіць толькі дакрануцца, каб перамяніць яго ў разнавідныя па форме кавалкі. А што тут ужо гаварыць пра пакупніка, які, каб давезці дамоў, мусіў бы аж два разы іх перакладаць.

— І куды ж іх дзець? — як прывід кружыць пытанне над плошчай ГС, дзе не толькі што месца займаюць, а і выгляд паскудзяць. Што сяляне іх браць не хочуць — вядома ў чым справа, але што вытворца, які, праўдападобна, прывёз свой тавар у такім стане і да якога звярнуліся з просьбай, дзе было выразна напісана, каб да чэрвеня гэтага года ачысціў плошчу, нават і пальцам не кіўне — гэта ўжо дрэнна. Праўда, прыязджалі і прабавалі адабраць добрыя, але, убачыўшы, што нічога з гэтага не выходзіць, паехалі і больш не паказаліся. Можна было б падумаць, што проста фабрыка бракаробнічае. Аднак дырэкцыя прадпрыемства пярэчыць гэтаму. І сапраўды, прадукцыйную залу пакідаюць зусім цэлыя і даволі прыгожыя вырабы.

— Дык хто тут не дбае?

— Гэта віна дарогі і транспарту, — гавораць нам у Ляўкове. — Дзе ж па такіх дарогах давязеш цэлымі?

— Праўда, дарогі не найлепшыя, але каб селянін вёз, то давёз бы іх цэлымі ці не? — пытаю.

— Чаму ж не! Паабкладаў бы іх саломай ды ехаў бы памалу, а машынамі — абы хутчэй. Здзельная праца, — гавораць нам там жа. Так яно і ёсць. Тут і ўся прычына. Больш вывязеш — больш зробіш. Ды гэта яшчэ паўбяды. Найгорш разгрузка. Замест таго, каб здымаць далікатна, то звальваюць абыяк, абы хутчэй. Адтуль і груз бярэцца. Але кіраўніцтва павінна неяк задбаць пра свае вырабы. Ці ж можна так спакойна глядзець, як марнуецца праца іх рук?

Вернемся яшчэ раз да Боцек. Нельга так абыякава адносіцца да афіцыяльна зложанай просьбы. Неяк трэба забраць той тавар, калі ён не надаецца на продаж.

**М. Ш.**

Фота **Я. Цялушэцкага**

МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

З рабочым шведскага хімічнага завода Оке Густаўсонам адбыўся няшчасны выпадак: узарвалася шклянка са шчолакам, і Оке страціў зрок. І вось праз 14 гадоў зрок часткова вярнуўся да яго. Першымі словамі Оке, які ажаніўся сляпым, а таму ніколі не бачыў сваёй жонкі, былі: „Якая ў мяне прыгожая жонка!“.




Здабывальнікі баравінавай гразі ў Імшары за Міхаловам нядаўна дакапаліся да логава лазатых чарцей, якіх мяркуюць экспартаваць заграніцу. Адна тона чартавіны каштуе на заходніх рынках ад трохсот да пяцісот долараў. (ся)

Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

**ХРЫСЦІННАЯ**




*Пуогнала бычкі пуод Раковыці —*
*заросыласе по самы ціці,*
*заросыласе по самы ціці.*

*Заросыласе, бо роса была —*
*любыла Яся, бо млода была,*
*любыла Яся, бо млода была.*

Ад Веры Кошаль, 1926 года нараджэння, Анны Парфенюк, 1923 года нараджэння, і Надзеі Грушэўскай, 1942 года нараджэння, вёска Арэшкава гміны Дубічы Царкоўныя, запісаў 4 сакавіка 1975 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „НІВУ“!

